В. К. БАНДАРЧЫК

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЭТНАГРАФІІ XIX ст.

ВЫДАВЕЦТВА „НАВУКА І ТЭХНІКА"
МІНСК 1964

ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ
МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР

*Работа прадстаўляе сабою першы ў савецкай навуцы вопыт сістэматызаванага ізлажэння гісторыі беларускай этнаграфіі эпохі капіталізму. Развіццё беларускай этнаграфіі разглядаецца ў цеснай сувязі з рускай і польскай этнаграфічнай навукай і грамадска-палітычным рухам таго часу. У кнізе, у прыватнасці, даецца аналіз дзейнасці буйнейшых беларускіх, рускіх, украінскіх і польскіх вучоных (П. В. Шэйна, Е. Р. Раманава, М. Я. Нікіфароўскага, М. Федароўскага, Д. М. Анучына, С. В. Максімава, П. П. Чубінскага, У. М. Дабравольскага, Я. Чачота, Я. Карловіча, У. Вярыгі, Ю. Крашэўскага, У. Сыракомлі і многіх іншых), а таксама дзейнасці навуковых устаноў і таварыстваў (Акадэміі навук, Рускага геаграфічнага таварыства, Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі і інш.) па этнаграфічнаму вывучэнню беларусаў.*

Р э д а к т а р ы:
доктар гістарычных навук А. І. ЗАЛЕСКІ,
кандыдат гістарычных навук Л. С. АБЕЦАДАРСКІ

# ПРАДМОВА

Беларуская этнаграфія ў дарэвалюцыйны час зрабіла значныя крокі ў сваім развіцці. Этнаграфічныя веды садзейнічалі больш шырокаму азнаямленню перадавой грамадскасці з культурай і бытам беларускага народа, а культурная спадчына беларусаў стала здабыткам сусветнай навукі.

У. І. Ленін, перасцерагаючы ад шкодна нігілістычных адносін да культурнай спадчыны дарэвалюцыйнага мінулага, указваў, што «пралетарская культура павінна з'явіцца заканамерным развіццём тых запасаў ведаў, якія чалавецтва выпрацавала пад гнётам капіталістычнага грамадства, памешчыцкага грамадства, чыноўніцкага грамадства» [1]. Праграма Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, прынятая XXII з'ездам КПСС, з новай сілай адлюстравала ленінскі падыход да выкарыстання гэтай спадчыны. «Культура камунізма, — гаворыцца ў Праграме, — убіраючы ў сябе і развіваючы ўсё лепшае, што створана сусветнай культурай, з'явіцца новай, вышэйшай ступенню ў культурным развіцці чалавецтва» [2].

У ажыццяўленні задач, пастаўленых XX і XXII з'ездамі КПСС, савецкія этнографы ў аснову сваіх навуковых даследаванняў кладуць вывучэнне і абагульненне практыкі камуністычнага будаўніцтва ў галіне быту, у стварэнні новых форм быту, у выхаванні чалавека камуністычнага грамадства.

Асноўнай задачай савецкай этнаграфічнай навукі

---

[1] У. І. Ленін. Творы, т. 31, стар. 260.
[2] Праграма КПСС. Мінск, 1961, стар. 131.

з'яўляецца вывучэнне сучаснага быту і культуры рабочага класа і калгаснага сялянства. Ва ўмовах сацыялізма этнаграфічныя веды дапамагаюць распрацоўваць правільную нацыянальную палітыку, якая забяспечвае ва ўзаемаадносінах паміж народамі цесную дружбу і брацкае супрацоўніцтва. Дзякуючы этнаграфічным ведам можна вызначыць, што з культурнай спадчыны народаў з'яўляецца рацыянальным, прагрэсіўным і заслугоўвае падтрымкі, далейшага развіцця і што перашкаджае руху наперад.

Адным з аспектаў савецкай этнаграфічнай навукі з'яўляецца вывучэнне і крытычнае асваенне той спадчыны, якую нам пакінула старая навука ў галіне быту і культуры народаў.

Марксізм-ленінізм вучыць, што гісторыя народа — гэта не толькі гісторыя здабывання сродкаў для жыцця, яна ўключае гісторыю жылля, адзення, ежы, сямейнага ўкладу, форм быту народа ў шырокім сэнсе гэтага слова. Гісторыя народа — гэта не толькі гісторыя яго барацьбы за свае ідэалы, гэта разам з тым гісторыя яго светапогляду, народных ведаў, звычаяў і абрадаў [1]. Адсюль зразумела, што этнаграфічныя веды даюць магчымасць савецкім вучоным глыбей даследаваць гісторыю народаў на ўсіх этапах развіцця чалавечага грамадства, вывучыць мнагагранна народнае жыццё, усе бакі яго і стварыць сапраўды навуковую гісторыю народа.

Такім чынам, этнаграфія як галіна гістарычнай навукі вывучае асаблівасці культуры і быту народаў на розных ступенях іх развіцця, этнагенез, рассяленне і культурна-гістарычныя працэсы, якія адбываліся ці адбываюцца ў жыцці розных народаў свету.

На розных этапах развіцця чалавечага грамадства этнаграфія займала пэўнае месца сярод іншых грамадскіх навук. У руках розных класаў і дзяржаўных органаў яна служыла сродкам вырашэння іх палітычных і сацыяльных задач. Такім чынам, этнаграфія заўсёды была навукай класавай.

Аб быце і культуры розных народаў свету паведамляецца ў самых даўніх гістарычных крыніцах. Але як навука з пэўнымі і акрэсленымі задачамі этнаграфія ўзнікла на зары капіталістычнага грамадства. Развіццё таварна-грашовых адносін штурхала маладую буржуазію

---

[1] Гл.: Очерки общей этнографии. М., 1957, стар. 9.

на пошукі новых рынкаў збыту і сыравінных рэсурсаў. У эпоху каланіяльных захопаў этнаграфія была накіравана на вывучэнне бытавых асаблівасцей заваяваных краін і ў руках буржуазіі служыла сродкам каланіяльнага прыгнёту. У перыяд рэвалюцыйных падзей (канец XVIII—1-я палавіна XIX ст.), якія знаменавалі сабою канчатковую гібель феадальна-прыгонніцкіх адносін, этнаграфія атрымала новы напрамак — зварот да вывучэння народных мас уласных краін. У гэты перыяд яна набыла асаблівую класавую вастрыню: ідэолагі пануючых класаў у быце і культуры народа шукалі тыя бакі, абапіраючыся на якія можна было б замацаваць і ўзмацніць класавы прыгнёт народных мас, стрымаць іх рэвалюцыйную энергію. Прагрэсіўныя ж вучоныя і рэвалюцыйныя дэмакраты выкарыстоўвалі гэту навуку для абароны інтарэсаў народа, для ўзняцця яго на вызваленчую барацьбу.

У сучасным капіталістычным свеце імперыялістычная рэакцыя выкарыстоўвае этнаграфію як служку каланіялізму, расізму, чалавеканенавісніцтва, нацыянальнага і класавага прыгнёту.

Беларуская этнаграфічная навука прайшла доўгі і складаны шлях развіцця. У яе дарэвалюцыйнай гісторыі храналагічна выдзяляюцца два буйных перыяды: першы — да пачатку 60-х гадоў XIX ст. — этнаграфія эпохі феадалізму, другі — 60-я гады XIX ст. — да Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі — этнаграфія эпохі капіталізму.

Гісторыю этнаграфіі эпохі феадалізму ў сваю чаргу можна падзяліць на два перыяды: а) перыяд першапачатковага накаплення этнаграфічных звестак (прыкладна да канца XVIII ст.); б) перыяд фарміравання і станаўлення беларускай этнаграфіі як навукі (пачатак XIX ст. — да рэформы 1861 г.).

У гісторыі этнаграфіі эпохі капіталізму выдзяляюцца тры перыяды, якія адпавядаюць тром хвалям уздыму грамадскай думкі — 60—70-я гады, 80—90-я гады і пачатак XX ст. (1900—1917 гг.).

Да сярэдзіны 70-х гадоў адбывалася ажыўленне этнаграфічнай дзейнасці ў Беларусі ў сувязі з агульным уздымам грамадска-палітычнага руху пасля рэформы 1861 г. і паўстання 1863 г. З сярэдзіны 70-х да сярэдзіны 80-х гадоў назіраецца спад у этнаграфічным выву-

чэнні Беларусі, які быў выклікан узмацненнем рэакцыі (гады жорсткай барацьбы царызму з рэвалюцыйным народніцтвам). У канцы XIX ст. у сувязі з новай хваляй грамадскага і культурнага ажыўлення і ўзмацненнем працэсу фарміравання беларускай нацыі адзначаецца новы ўздым этнаграфіі ў Беларусі. У гэтыя гады паяўляюцца буйнейшыя фальклорна-этнаграфічныя працы Е. Раманава, П. Шэйна, М. Нікіфароўскага, У. Дабравольскага, М. Доўнар-Запольскага, М. Федароўскага і іншых беларускіх этнографаў.

У новы перыяд гісторыі беларускай этнаграфіі эпохі капіталізму (1900—1917 гг.), які адзначан бурным ростам нацыянальнай і класавай самасвядомасці, побач са збіраннем фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў паяўляюцца буйныя працы даследчага характару (даследаванні Я. Карскага і інш.), разгортваецца больш шырокае вывучэнне матэрыяльнай культуры беларусаў. Аднак к канцу гэтага перыяду наступае крызіс буржуазнай этнаграфіі. Буржуазныя вучоныя імкнуцца адарваць гэту навуку ад сацыяльных і гістарычных праблем і выключыць этнаграфію з галіны гуманітарных навук.

Этнаграфія ў Беларусі адыграла значную ролю ў развіцці нацыянальнай культуры. Дарэвалюцыйныя этнографы сваёй дзейнасцю дапамагалі ўстанаўленню больш правільных поглядаў на гісторыю свайго народа, папулярызавалі яго культуру. Разам з тым этнаграфічная літаратура, у прыватнасці фальклорна-этнаграфічныя зборнікі і шматлікія артыкулы па быту і культуры народа, напісаныя з дэмакратычных і прагрэсіўных пазіцый, паказваючы яго багатую культурную спадчыну, у значнай ступені садзейнічала абуджэнню нацыянальнай і класавай самасвядомасці беларусаў, усведамленню іх чалавечай годнасці і такім чынам дапамагала кансалідацыі сіл народа.

Неабходна адзначыць і тую акалічнасць, што ва ўмовах, калі адсутнічала літаратура на беларускай мове, фальклорна-этнаграфічныя зборнікі па сутнасці запаўнялі сабою гэты прабел у нацыянальнай культуры. Пазней яны садзейнічалі развіццю беларускай прафесіянальнай літаратуры.

Усё гэта дае права гаварыць аб этнаграфіі як аб важнейшай галіне культуры народа.

Аб значнасці этнаграфічнай навукі ў дарэвалюцыйны

час сведчыць тое, што яшчэ ў апошняй чвэрці XIX ст. робіцца першая спроба напісання яе гісторыі. Гэту пачэсную задачу ўзяў на сябе літаратуразнаўца і этнограф А. М. Пыпін, якому належыць вядомая праца «Гісторыя рускай этнаграфіі» (1890—1892) у чатырох тамах. Гісторыі беларускай этнаграфіі прысвечана частка апошняга тома гэтай працы [1].

Гэта праца адыграла вялікую ролю ў папулярызацыі этнаграфічных ведаў і актывізацыі новых сіл на высакародную справу вывучэння быту і культуры народа. Аднак пытанні гісторыі этнаграфіі ў ёй не атрымалі глыбокага аналізу. Падыходзячы да гэтай навукі з пункту погляду буржуазна-асветніцкіх пазіцый, Пыпін па сутнасці падмяняе гісторыю этнаграфіі агульным аглядам культурнага развіцця Беларусі, пералічэннем віднейшых этнографаў і іх прац. Агляд некаторых этнаграфічных прац робіцца толькі ў плане характарыстыкі культурна-асветніцкай дзейнасці і нацыянальных узаемаадносін беларусаў з рускімі і палякамі.

У «Гісторыі рускай этнаграфіі» Пыпіна не асвятляюцца праблемы этнаграфічнага вывучэння народа. Многія працы беларускіх этнографаў зусім выпалі з поля зроку аўтара. Калі пры гэтым улічыць той факт, што агляд этнаграфічных прац даведзен толькі да 1891 г., то стане зразумелым, што ён не можа быць поўным як па ахопу этнаграфічнай літаратуры, так і па часу яе выхаду.

Больш поўны бібліяграфічны агляд важнейшых прац па беларускаму мовазнаўству, фальклору і этнаграфіі робіць Я. Ф. Карскі [2]. Аднак Карскі ставіў перад сабою іншую мэту — ён разглядаў краязнаўчую літаратуру таго часу з пункту погляду яе верагоднасці як крыніцы для вывучэння беларускай мовы. Таму ў гэтым томе «Беларусаў» многія працы чыста этнаграфічнага характару зусім не ўпамінаюцца. Карскі ў першую чаргу робіць аналіз методыкі запісвання і публікацыі сабраных фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў, пашпартызацыі іх, дакладнасці перадачы на пісьме фанетычных асаблівасцей мясцовых гаворак. Этнаграфічная ж характарыстыка прац амаль зусім адсутнічае.

---

[1] А. Н. Пыпин. История русской этнографии, т. IV. Белоруссия и Сибирь. СПб., 1892, стар. 1—173.

[2] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. I. Вильна, 1904.

Нягледзячы на гэта, указаная праца Карскага, як і праца Пыпіна, у свой час мела вялікае значэнне. Асноўнай заслугай Пыпіна і Карскага з'яўляецца тое, што яны паказалі свету багацце беларускай краязнаўчай літаратуры і ўпершыню прывялі яе ў сістэму. Аднак працы Пыпіна і Карскага не поўнасцю адлюстроўваюць стан беларускай этнаграфічнай навукі і не вырашаюць важнейшых яе праблем.

Буржуазныя вучоныя ў сілу сваёй класавай абмежаванасці не маглі стварыць сапраўды навуковай гісторыі беларускай этнаграфіі. Гэта можна было зрабіць толькі на аснове марксісцка-ленінскай метадалогіі.

У 20—пачатку 30-х гадоў XX ст. Інстытутам беларускай культуры былі зроблены першыя крокі па стварэнню гісторыі беларускай этнаграфіі на новай метадалагічнай аснове. Беларускія этнографы тых часоў склалі бібліяграфію этнаграфічнай літаратуры і апублікавалі некалькі артыкулаў аб дзейнасці некаторых беларускіх этнографаў (Е. Р. Раманава і У. М. Дабравольскага).

У 1957 г. у Акадэміі навук БССР быў створан Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Адразу ж былі прыняты меры па распрацоўцы пытанняў гісторыі беларускай этнаграфіі, у выніку чаго як першыя крокі гэтага ў 1960—1961 гг. выйшлі дзве кніжкі: аб этнаграфічнай дзейнасці Е. Р. Раманава [1] і М. Я. Нікіфароўскага [2]. Асобны артыкул прысвечан агульнаму агляду гісторыі беларускай этнаграфіі за гады Савецкай улады [3].

У прапануемай чытачу працы аўтар паставіў задачу — на аснове аналізу апублікаваных этнаграфічных прац, фальклорна-этнаграфічных зборнікаў і архіўных матэрыялаў, на аснове аналізу дзейнасці віднейшых беларускіх этнографаў, а таксама рускіх і польскіх вучоных, якія займаліся вывучэннем быту і культуры беларускага народа, на аснове аналізу дзейнасці важнейшых этнаграфічных цэнтраў, якія кіравалі вывучэннем Беларусі, даць кароткую гісторыю беларускай этнаграфічнай навукі ад яе ўзнікнення і да канца XIX ст.

---

[1] В. К. Бандарчык. Еўдакім Раманавіч Раманаў. Мінск, 1961.

[2] В. К. Бондарчик, И. Г. Чигринов. Николай Яковлевич Никифоровский. Минск, 1960.

[3] М. Я. Грынблат, А. І. Залескі. Беларуская савецкая этнаграфія. Навука ў Беларускай ССР за 40 год. Мінск, 1958.

# БЕЛАРУСЬ У XIX ст.

*(Гісторыка-этнаграфічная характарыстыка)*

Беларусы разам з рускімі і ўкраінцамі этнічна складаюць усходнеславянскую групу народаў Еўропы. Яны размешчаны ў асноўным у межах сучаснай тэрыторыі Беларускай ССР, займаючы па дарэвалюцыйнаму адміністрацыйнаму дзяленню Мінскую губерню, большую частку Магілёўскай, Віцебскай і Гродзенскай губерняў, значную частку Віленскай губерні і частку Нова-Аляксандраўскага павета Ковенскай губерні.

Культурна-бытавыя асаблівасці беларусаў з усіх усходнеславянскіх народаў найбольш аднародныя. Тым не менш насельніцтва паасобных частак Беларусі мае і свае этнаграфічныя асаблівасці. Некалькі адрозніваецца па бытавому ўкладу і гаспадарчаму тыпу паўночная частка ад паўднёвай. У прыватнасці, значна выдзяляюцца беларусы Пінскага Палесся і паўднёва-заходніх раёнаў сучаснай Брэсцкай вобласці. У этнаграфічнай літаратуры яны атрымалі назвы палешукоў і берасцянцаў. Адрозненні наглядаюцца і ў культурна-бытавых асаблівасцях захаду і ўсходу Беларусі. Этнаграфічныя асаблівасці паасобных частак Беларусі тлумачацца як гісторыка-культурнымі сувязямі беларусаў (усход і поўнач з рускімі, поўдзень і захад з украінцамі, палякамі і літоўцамі), так і геаграфічнымі адрозненнямі, а таксама рэшткамі племянных адрозненняў, якія ў некаторай ступені яшчэ захоўваліся.

Старажытныя летапісы расказваюць, што тэрыторыю сучаснай Беларусі ў даўнія часы насялялі ўсходнеславянскія плямёны: крывічы (Верхняе Падняпроўе, верхняя і сярэдняя часткі Заходняй Дзвіны і вярхоўе Беразі-

ны), дрыгавічы (паміж Прыпяццю і Заходняй Дзвіной), радзімічы (на Сожы), часткова севяране і валыняне (на поўдні Беларусі). К IX ст. гэтыя плямёны разам з іншымі ўсходнеславянскімі плямёнамі ляглі ў аснову фарміравання старажытнарускай народнасці, якая ўтварыла Старажытнарускую дзяржаву з цэнтрам у Кіеве. На базе старажытнарускай народнасці склаліся руская, беларуская і ўкраінская народнасці. Такім чынам, асаблівасцю этнагенезу беларусаў, як і рускіх і ўкраінцаў, з'яўляецца тое, што гэта народнасць утварылася не ў выніку зліцця першасных плямёнаў, а прайшла стадыю старажытнарускай народнасці. Складванне беларускай народнасці адбывалася на працягу XIV—XVI стст., а ў XIX ст. у выніку капіталістычнага развіцця беларуская народнасць ператварылася ў нацыю.

Працэс разлажэння феадальна-прыгонніцкай сістэмы ў Беларусі, што ішоў на працягу першай палавіны XIX ст., к сярэдзіне XIX ст. перарос у стадыю глыбокага крызісу. Капіталістычныя пераўтварэнні ў гаспадарцы Беларусі адбываліся ў своеасаблівых умовах і выклікалі ўзмацненне феадальнага прыгнёту народа. Уцягненне памешчыцкай гаспадаркі ў таварна-грашовыя адносіны (а Беларусь была раёнам буйнага землеўладання) прывяло да рэзкага павелічэння феадальнай рэнты. Імкнучыся ўзняць таварнасць сваёй гаспадаркі і разам з тым захаваць яе феадальныя ўстоі, памешчыкі пайшлі па шляху павелічэння паншчыны (да 4—6 дзён у тыдзень з паўвалокі зямлі), згонаў, ці гвалтаў (у час уборкі), дарожных і іншых павіннасцей. У пошуках новых прыбыткаў памешчыкі стваралі мануфактуры, дзе выкарыстоўвалася праца прыгонных сялян.

Для павелічэння вытворчасці таварнага хлеба памешчыкі пачалі расшыраць пасевы за кошт абеззямелення сялян. Нарэшце адной з пашыраных форм феадальнай эксплуатацыі была аддача памешчыкамі сваіх сялян у наём на будаўнічыя і іншыя работы ў суседнія губерні Расіі.

Усё гэта падрывала вытворчыя сілы сельскай гаспадаркі і прывяло сялянства Беларусі да крайне цяжкага становішча. Дробныя сялянскія надзелы яшчэ больш скарачаліся, сяляне пераводзіліся на горшыя землі. Для апрацоўкі сваіх надзелаў у сялян не заставалася часу. Іх палі зарасталі пустазеллем.

Напярэдадні адмены прыгонніцтва становішча сялян заходніх (беларускіх) губерняў Расіі было самым цяжкім. Гэта вымушан быў прызнаць і царскі ўрад. У прыпісцы Мікалая I на даклад беларускага генерал-губернатара, напрыклад, гаварылася наступнае: «У Камітэт міністраў з тым, каб усе паны міністры прачыталі і пераканаліся, у якім страшэнным становішчы губерні знаходзяцца» [1]. Зразумела, тут гутарка ішла не аб паляпшэнні становішча сялян. Царызм баяўся, каб не скараціліся даходы ў казну ад заходніх губерняў.

У адказ на ўзмацненне эксплуатацыі сяляне ўздымаліся на барацьбу супраць прыгнятальнікаў. Характэрнай рысай сялянскага руху напярэдадні адмены прыгоннага права было няўхільнае імкненне да волі — выхад з прыгоннай залежнасці. З другой палавіны 40-х гадоў шырыцца сялянскі рух у сувязі з увядзеннем інвентароў.

Абвастрэнне крызісу феадальна-прыгонніцкай сістэмы і рост стыхійнага сялянскага руху ў 40—50-х гадах XIX ст. узмацнілі вызваленчы рэвалюцыйны рух супраць царызму і прыгонніцтва. На яго развіццё ў Беларусі дабратворны ўплыў зрабіла рэвалюцыйна-дэмакратычная думка рускага народа.

К канцу 50 — пачатку 60-х гадоў у краіне склалася рэвалюцыйная сітуацыя. Пануючыя класы ўжо не маглі кіраваць сялянамі старымі метадамі, а народ не хацеў жыць па-старому. Аднак рэвалюцыйная сітуацыя гэтых год не перарасла ў рэвалюцыю, яна завяршылася рэформай 1861 г. Тым не менш «...падзенне прыгоннага права, — пісаў Ленін, — ускалыхнула ўвесь народ, разбудзіла яго ад векавога сну, навучыла яго самога шукаць выхаду, самога весці барацьбу за поўную свабоду» [2].

Паслярэформенны перыяд для Беларусі, як і для Расіі, быў перыядам параўнальна хуткага развіцця капіталізму. Значна вырасла фабрычная прамысловасць Беларусі. Пры гэтым адбываўся працэс канцэнтрацыі прамысловасці і рабочага класа. Асабліва хутка расла колькасць буйных капіталістычных прадпрыемстваў (з колькасцю рабочых звыш 100). Калі з 1879 па 1900 г. колькасць усіх прадпрыемстваў вырасла на 30,7%, то

---

[1] ЦДГА БССР, ф. 1297, воп. 1, № 12112, лл. 17—20.
[2] У. І. Ленін. Творы, т. 17, стар. 66.

колькасць буйных прадпрыемстваў павялічылася на 161%, а лік рабочых узрос на 258%[1].

Развіваўся капіталізм і ў сельскай гаспадарцы Беларусі. Вёска ўсё больш цесна звязвалася з рынкам, сельская гаспадарка набывала таварны характар. Развіццё капіталізму ў вёсцы суправаджалася рассяляньваннем вёскі, класавай дыферэнцыяцыяй сялянства. Масы абеззямеленага сялянства ў пошуках працы ішлі ў горад. Беларуская вёска канца XIX — пачатку XX ст. прадстаўляла сабою ўжо рэзкі кантраст у сацыяльным плане — з аднаго боку, забітая галечаю бедната з адсталай тэхнікай, з другога, кучка міраедаў-кулакоў, якія эксплуатавалі наёмную працу.

Асноўнае месца ў сялянскай гаспадарцы Беларусі займалі паляводства і жывёлагадоўля. Сяляне сеялі жыта, ячмень, гарох, проса, грэчку, авёс. З развіццём капіталізму значна павялічваліся пасевы тэхнічных культур: бульбы, ільну, канапель. Некаторае распаўсюджанне знайшла кукуруза (паўднёвая частка Беларусі). Агародніцтва і садоўніцтва мелі другараднае значэнне. Апрацоўка ворнай зямлі вялася на аснове трохпольнай сістэмы севазвароту. Толькі некаторыя памешчыкі і кулакі, якія перабудавалі сваю гаспадарку на вытворчасць таварнай прадукцыі, уводзілі чатырохполле і шматполле.

Для апрацоўкі зямлі пераважна карысталіся драўлянай сахой, плугам і бараной. Прымітыўным спосабам апрацоўвалася зямля і ў тых памешчыцкіх маёнтках, дзе гаспадарка вялася шляхам адпрацовак.

З развіццём капіталізму беларуская вёска паступова мяняла сваё аблічча. Побач з нізенькімі старымі хатамі беднаты ў вёсцы ўзвышаліся дабротныя хаты і гаспадарчыя пабудовы кулакоў, валаснное праўленне, дамы папа, урадніка, старасты і іншых прадстаўнікоў эксплуататарскай часткі вёскі.

Паступова адбываліся змены ў тэхніцы будаўніцтва. Калі раней першы вянок хаты лажыўся прама на зямлю, то пазней больш заможныя сем'і сталі ўзводзіць драўляныя і каменныя фундаменты. Зніклі і такія элементы сялянскага жылля феадальнай эпохі, як валакавыя вокны, канструкцыя страхі «закотам», скляпеністыя столі, глі-

---

[1] История БССР, т. I. Минск, 1961, стар. 381—383.

набітныя печы без дымавога коміна, а ў радзе выпадкаў і земляная падлога. Курныя хаты (курніцы) заставаліся толькі ў глухіх кутках Беларусі.

З узмацненнем класавай дыферэнцыяцыі вёскі адбываюцца змены і ва ўнутранай планіроўцы і ўбранні хаты. У заможных сялян паяўляюцца ложкі, крэслы і шафы, аддзяляюцца спальня і кухня ад чыстага пакою (святліцы). У вёску ўсё шырэй пранікае культура капіталістычнага горада. Але асноўная маса беднаты знаходзілася ў цяжкіх жыллёвых умовах.

Яшчэ горш жыў гарадскі пралетарыят. Многія сем'і рабочых туліліся ў цесных, брудных і сырых бараках і падвалах, а нярэдка і ў хлявах. У адным пакоі часта змяшчалася па 2—3 сям'і. У той жа час эксплуататарскія слаі горада мелі ў сваім распараджэнні палацы і багатыя, раскошна абсталяваныя асабнякі.

Амаль да самай рэвалюцыі пераважная частка беларускага сялянства насіла даматканую вопратку. Асноўныя рысы традыцыйнага беларускага адзення былі агульнымі для ўсёй Беларусі. Абласныя адрозненні праяўляліся пераважна ў характары ўпрыгожвання вопраткі, яе расфарбоўкі і крою. Характэрныя рысы беларускага нацыянальнага касцюма найбольш ярка былі выражаны ў жаночай сялянскай вопратцы. У канцы XIX — пачатку XX ст. у сувязі з інтэнсіўным развіццём капіталістычных адносін і ў выніку ўзросшых сувязей горада і вёскі пачаўся працэс выцяснення даматканай традыцыйнай вопраткі фабрычнаю з гарадскім пакроем. Уласнікам такой вопраткі была пераважна капіталістычная праслойка беларускай вёскі (кулацтва, гандляры і інш.), а таксама моладзь сярэдніх слаёў сялянства. Адносная таннасць фабрычных тканін і гатовага адзення, перавага перад даматканай з'яўляліся галоўным стымулам паступовага выцяснення традыцыйнага адзення. Працэс ломкі старых форм сялянскай вопраткі асабліва актыўна адбываўся ў паўночна-ўсходняй частцы Беларусі, куды капіталістычныя адносіны пранікл і раней і развіццё іх праходзіла больш інтэнсіўна. У выніку гэтых змен адзенне беларусаў пачатку XX ст. значна адрознівалася ад адзення сярэдзіны XIX ст.

Аднак гэтыя змены не прывялі да значнай нівеліроўкі адзення горада і вёскі. Адзенне гараджан у большай ступені насіла на сабе адбітак сацыяльнай няроў-

насці. Разам з тым у ім наглядаліся спецыфічныя адрозненні па прафесіянальнаму складу жыхароў горада. Па адзенню лёгка было адрозніць чыноўніка ад купца, рабочага ад мешчаніна ці студэнта. У беларускі горад канца XIX ст. шырока ўваходзіў агульнаеўрапейскі касцюм.

Асноўнай крыніцай харчавання беларускага сялянства да рэвалюцыі былі прадукты сельскай гаспадаркі. Прамысловымі прадуктамі харчавання жыхары вёскі амаль не карысталіся. Выключэнне складалі соль, цукар і некаторыя прысмакі (цукеркі і іншыя вырабы). Колькасць, якасць і разнастайнасць прадуктаў залежалі ад узроўню матэрыяльнага дабрабыту розных слаёў вясковага насельніцтва. Бедныя слаі сялянства пастаянна адчувалі недахоп у прадуктах харчавання.

Побач з сацыяльнымі адрозненнямі ў ежы беларускіх сялян існавалі і адрозненні традыцыйнага характару. Паўсядзённая ежа адрознівалася ад святочнай. У значнай меры меню сялянскай кухні было падпарадкавана царкоўнай рэгламентацыі (пасты, мясаеды). Асобна выдзяляліся абрадавыя стравы, якія рыхтаваліся як у дні хрысціянскіх рэлігійных свят, так і ў традыцыйна-народныя святы, звязаныя з перажыткамі дахрысціянскіх культаў (куцця на радзінах і ў дні памінак па нябожчыках — на дзяды, радаўніцу, каравай на вяселлі і г. д.).

Хлеб быў асноўным прадуктам харчавання беларусаў. Беларуская вёска ведала некалькі разнавіднасцей хлеба. Чысты хлеб выпякаўся з прасеянай жытняй мукі без ніякіх дабаўленняў. У хаце бедняка ён быў рэдкім госцем. Бедната і значная частка сераднякоў ужывалі хлеб, які выпякаўся з непрасеянай мукі (градоўка) і з мукі, якая малолася з зерня ўпярэмешку з мякінай (пушны хлеб). У галодныя ж гады да хлеба, акрамя бульбы (калі яна была), дабаўлялі кару і лісце дрэў і раслін, тоўчаныя жалуды, высушаныя і расцёртыя гнілушкі і г. д.

У працэсе капіталістычнага развіцця адбывалася ломка старых патрыярхальных устояў сямейнага быту беларусаў. Разбуралася вялікая патрыярхальная сям'я. Ужо к канцу XIX ст. асноўнай формай сялянскай сям'і ў Беларусі была так званая малая сям'я, якая складалася звычайна з 2—3 пакаленняў, г. зн. з адной або

дзвюх шлюбных пар з дзецьмі. Вялікія непадзельныя сем'і, у якіх захоўваліся некаторыя рысы ўзаемаадносін, характэрных для патрыярхальных сем'яў феадальнага ці нават радавога грамадства, можна было сустрэць часцей у Магілёўскай і паўднёвай частцы Мінскай губерняў, куды капіталістычныя адносіны пранікалі менш інтэнсіўна. Адной з прычын захавання вялікай сям'і была тая акалічнасць, што ва ўмовах крайняга малазямелля, у якім знаходзілася сялянства, многія сем'і не дзяліліся, каб не драбіць і так мізэрныя палоскі зямлі.

Сялянская сям'я была асноўнай вытворчай ячэйкай у дарэвалюцыйнай сельскай гаспадарцы Беларусі. У вытворчай дзейнасці кожнай сям'і звычайна існаваў падзел працы. Галава карыстаўся вялікай павагай з боку ўсіх членаў сям'і. Усімі жаночымі работамі кіравала жонка — гаспадыня. Аднак ва ўмовах буржуазна-памешчыцкага ладу працоўныя жанчыны, асабліва сялянкі, былі забітымі і бяспраўнымі. Яны знаходзіліся пад двайным прыгнётам — у грамадстве і ў сям'і. Царскі ўрад не толькі не вёў барацьбы са шкоднымі звычаямі і забабонамі, якія прыгняталі жанчыну, але ўмацоўваў іх сваім заканадаўствам. Такое бяспраўе жанчыны ў сям'і і грамадстве падтрымлівала і царква.

Бязрадасным было становішча сялянскіх дзяцей у бедных сем'ях. Ужо з пяцігадовага ўзросту яны павінны былі дапамагаць па гаспадарцы.

З развіццём капіталізму ў вёсцы мянялася юрыдычнае і маёмаснае становішча членаў сям'і. Уход паасобных членаў сям'і на заработкі ў горад узмацняў у іх імкненне да асабістай незалежнасці. У вёску ўсё больш стала пранікаць культура горада. Носьбітамі гарадской культуры з'яўляліся адыходнікі, а таксама абеззямеленыя сяляне, якія сталі рабочымі, але не страцілі сувязей з вёскай. Многія беларускія сяляне ішлі на сезонныя работы на цукровыя заводы Чарнігаўскай, Кіеўскай, Валынскай і Падольскай губерняў. Разам з дарослымі ішлі і падлеткі. Сям'я мала спадзявалася на іх заробак, але затое можна было на час пазбавіцца ад лішніх едакоў.

Праз адыходнікаў у вёску сталі пранікаць перадавыя, рэвалюцыйныя ідэі рабочага класа. Сялянства ўспрымала новую ідэалогію і станавілася больш актыў-

най сілай у класавай барацьбе працоўных Беларусі за сваё вызваленне.

Сямейны быт характарызаваўся шматлікімі традыцыямі, звычаямі і абрадамі. Побач з чыста сямейнымі святамі і абрадамі (вяселле, хрэсьбіны, хаўтуры) у сям'і адзначаліся і ўсе важнейшыя гадавыя святы — каляды, вялікдзень, сёмуха, купалле, дажынкі і г. д. Яны праводзіліся пад значным уплывам царквы, якая з'яўлялася сродкам духоўнага і сацыяльнага прыгнечання працоўных.

Афіцыйнай рэлігіяй на Беларусі (таксама, як рускіх і ўкраінцаў) было хрысціянства ў форме праваслаўя. Частка беларусаў, галоўным чынам паўднёва-ўсходніх паветаў Віленскай і паўночна-заходніх паветаў Гродзенскай губерняў, а таксама ўсходняй частні Нова-Аляксандраўскага павета Ковенскай губерні, вызнавала каталіцызм. Гэта веравызнанне стала пранікаць сюды ў XVI—XVIII стст. у выніку прымусовага насаджэння уніі, палітыкі апалячвання і ксяндзоўскай прапаганды, якую ўпарта праводзілі на Беларусі польскія магнаты і езуіты.

У значнай частцы беларускага сялянства канца XIX ст. быў яшчэ моцны забабонны страх перад шматлікімі злымі сіламі («нячысцікі»), вера ў замовы і розныя знахарскія сродкі, якія вынікалі з поглядаў на сутнасць хваробы і яе прычыны і г. д. Захаванню знахарства і чараўніцтва спрыялі сацыяльна-эканамічныя ўмовы, у якіх знаходзілася беларускае сялянства да рэвалюцыі, і амаль поўная адсутнасць арганізаванай медыцынскай дапамогі ў вёсцы, а таксама царкоўныя пропаведзі.

Нягледзячы на ўсе намаганні царквы і царскай дзяржаўнай машыны, накіраваныя на захаванне ў працоўных мас глыбокай рэлігійнасці і паслухмянасці, у народзе адбываўся працэс стыхійнага росту атэізму. Аб гэтым сведчыць этнаграфічная літаратура.

Даследчыкі быту беларускага народа Е. Р. Раманаў, П. В. Шэйн, М. Я. Нікіфароўскі, маючы на ўвазе афіцыйнае веравызнанне, адзначалі, што рэлігійныя пачуцці не маюць глыбокіх кораняў у народзе, што народ нярэдка крытычна адносіцца да рэлігіі. Нягледзячы на строгую царскую цэнзуру, у старых этнаграфічных зборніках паяўлялася нямала антыклерыкальных фальклорных твораў. Сацыяльны пратэст працоўных Беларусі на-

быў новую сілу ў канцы XIX ст., калі на арэну класавай барацьбы выступіў пралетарыят.

Грамадскае жыццё працоўных Беларусі рэгулявалася сацыяльна-эканамічнымі і палітычнымі ўмовамі, у якія яны былі пастаўлены ў дарэвалюцыйны час. Прыватнаўласніцкія інтарэсы, цяжкі эканамічны і палітычны прыгнёт асноўнай масы рабочых і сялян ставілі грамадскае жыццё іх у абмежаваныя рамкі. У грамадскім быце вёскі доўгі час захоўваліся перажыткі звычаёвага (няпісанага) права. Нормы звычаёвага права рэгулявалі правілы паводзін і маралі, адносіны да ўласнасці, сваяцкія і суседскія адносіны, адносіны да жанчыны і наогул маральна-этычныя нормы сельскага насельніцтва. Многія з іх былі рэакцыйнымі, прыніжалі чалавека (дэспатызм гаспадара, бяспраўе жанчыны і інш.), але сярод народных звычаяў было нямала станоўчых, прагрэсіўных (звычаі талакі[1] — бясплатнай дапамогі, дапамога пацярпеўшым бяду, многія нормы маральна-этычных паводзін у сям'і і інш.).

Царскі адміністрацыйна-бюракратычны апарат імкнуўся абмежаваць грамадскае жыццё вёскі яго старымі традыцыйнымі формамі. Даючы фіктыўныя правы на так званае самакіраванне, царызм і памешчыкі выкарыстоўвалі выбарных сельскіх асоб (стараст, соцкіх і інш.), сельскія сходы і рэшткі абшчынных парадкаў (дзе яны захаваліся) для замацавання і ўзмацнення эксплуатацыі сялянства, для стрымлівання рэвалюцыйнага руху ў вёсцы. Выбарныя асобы станавіліся служкамі царскіх улад на вёсцы. Праз сходы, на якіх вырашаліся пытанні размеркавання падаткаў, выбараў органаў самакіравання, перадзелу зямлі, якая знаходзілася ў сем'ях, што не мелі сілы яе апрацоўваць, розныя спрэчкі і канфлікты і іншыя пытанні, мясцовыя ўлады шляхам адурманьвання сялян праводзілі сваю эксплуататарскую палітыку. Дэмакратызм гэтых сходаў быў фіктыўным, ды ў іх прымала ўдзел меншая частка сялян. На сходы не дапускаліся жанчыны і моладзь. Правам голасу карыстаўся толькі галава сям'і — гаспадар. Звычайна на такіх сходах перамагалі кулакі. Аднак з узмацненнем класавай барацьбы на сялянскіх сходах усё часцей вы-

---

[1] Зазначым, што гэты народны звычай памешчыкі і кулакі выкарыстоўвалі для ўзмацнення эксплуатацыі сялян.

казваўся пратэст супраць эксплуататарскага ладу. Вынікам такіх бунтарскіх сходаў былі паўстанні супраць памешчыкаў і ўлад, самавольныя парубкі, пакосы, захопы памешчыцкай зямлі, адмаўленне ад выплаты падаткаў, сабатаж і забастоўкі батракоў.

Асабліва шырокі размах набылі сялянскія выступленні ў 1863 г. у сувязі з нацыянальна-вызваленчым рухам у Польшчы. У паўстанні 1863 г. сустрэліся і цесна перапляліся такія магутныя рэвалюцыйныя патокі, як барацьба польскага народа за незалежнасць, антыпрыгонніцкі рух і ўзрастаючае супраціўленне беларускага і літоўскага народаў супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту [1]. Рэвалюцыйна-дэмакратычную плынь паўстання ўзначальвалі Кастусь Каліноўскі, Зыгмунт Сераkоўскі, Яраслаў Дамброўскі, Андрэй Патэбня, Антанас Мацкевіч і інш. Кіраўніком беларускай групы рэвалюцыйных дэмакратаў быў Кастусь Каліноўскі, рэвалюцыйна-дэмакратычныя ідэі якога сфарміраваліся пад непасрэдным уплывам Чарнышэўскага, Дабралюбава і Герцана.

Перакананы прыхільнік сялянскага паўстання Каліноўскі са сваёй групай разгарнуў шырокую прапаганду рэвалюцыйнага шляху пераўтварэння існуючых парадкаў у вёсцы. Побач з распаўсюджаннем нелегальнай літаратуры («Колокол», «Рух», «Великорус», «К русским войскам в Польше» і інш.) рэвалюцыйная група Каліноўскага стварыла і свае органы друку: газеты «Знамя свободы» і «Мужыцкая праўда». Першая выдавалася на польскай, другая на беларускай мовах.

«Мужыцкая праўда», якую рэдагаваў К. Каліноўскі, выкрывала памешчыцкі лад як ворага народа, грабежніцкі сэнс рэформы 1861 г. і заклікала сялян да паўстання.

Рэвалюцыйным дэмакратам не ўдалося ўзняць сялян на паўстанне, аднак дзейнасць іх у Беларусі мела вялікае значэнне. Сярод народа ўпершыню шырока распаўсюджваліся рэвалюцыйна-дэмакратычныя ідэі, умацоўваліся інтэрнацыянальныя сувязі паміж рускім, польскім, літоўскім і беларускім народамі. Нарэшце царызм вымушан быў пайсці на сур'ёзныя ўступкі ў правядзенні рэформы 1861 г. у заходніх губернях.

---

[1] История БССР, т. I. Минск, 1961, стар. 353.

Жорсткая расправа з удзельнікамі паўстання 1863 г. не спыніла сялянскі рух у Беларусі. Барацьба супраць грабежніцкіх умоў рэформы, супраць памешчыцкага землеўладання і прыгнёту зноў стала нарастаць з другой палавіны 60-х гадоў.

У 70-х гадах у Беларусі ствараюцца арганізацыі народніцкага руху. У Мінску, Магілёве, Гродна і іншых гарадах Беларусі існавалі даволі буйныя народніцкія арганізацыі, членамі якіх з'яўляліся і некаторыя беларускія этнографы. Так, актыўным членам мінскай арганізацыі быў вядомы беларускі этнограф і публіцыст А. Я. Багдановіч — бацька беларускага паэта Максіма Багдановіча.

Побач з сялянскім і народніцкім рухам у другой палавіне XIX ст. у Беларусі разгортваўся і рабочы рух, які спачатку насіў стыхійны характар. Са стварэннем у канцы 90-х гадоў арганізацый РСДРП рабочы рух набывае арганізаванасць і мэтанакіраванасць.

Гістарычныя і сацыяльна-эканамічныя ўмовы Беларусі наклалі адбітак на развіццё яе культуры і вызначылі своеасаблівы характар развіцця грамадска-палітычных адносін.

Важнай асаблівасцю культурнага развіцця Беларусі было тое, што ва ўмовах шматвяковага жорсткага панска-каталіцкага прыгнёту значная частка беларускай інтэлігенцыі і дваранства прыняла польскую культуру, мову і веру. Таму пасля ўз'яднання Беларусі з Расіяй кадры беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі фарміраваліся вельмі марудна. Пазней гэтаму перашкаджала і нацыянальная палітыка царызму ў адносінах да Беларусі.

Аднак, нягледзячы на неспрыяльныя сацыяльна-эканамічныя ўмовы, уздым культурнага жыцця беларускага народа, рост яго нацыянальнай і класавай свядомасці праяўляліся ў развіцці мастацкай літаратуры на роднай мове, ва ўзмацненні антыпрыгонніцкіх настрояў у вуснапаэтычнай народнай творчасці, у паяўленні і кансалідацыі прагрэсіўных і дэмакратычных сіл нацыянальнай інтэлігенцыі і ва ўмацаванні сувязей гэтых сіл з перадавой грамадскасцю Расіі і Польшчы.

Прагрэсіўны і дэмакратычны напрамкі ў беларускай культуры перыяду крызісу феадальна-прыгонніцкай сістэмы ўзначальваліся прадстаўнікамі перадавой рускай,

беларускай і польскай інтэлігенцыі — П. Багрымам, Ф. Савічам, А. Міцкевічам, У. Сыракомляй (Л. Кандратовічам), Я. Чачотам і інш.

Аб ажыўленні культурнага жыцця ў Беларусі гэтага перыяду сведчыла і тое, што паявіліся мясцовыя дзеячы, якія прысвяцілі сваё жыццё вывучэнню гісторыі, быту і вуснапаэтычнай творчасці беларускага народа (І. І. Грыгаровіч, П. М. Шпілеўскі, І. І. Насовіч, А. К. Кіркор і інш.).

Да 30—40-х гадоў XIX ст. этнаграфічныя даследаванні Беларусі праводзіліся галоўным чынам рускімі і польскімі вучонымі. На арэну этнаграфічнага вывучэння свайго народа ўласна беларускія сілы самастойна выходзяць у 50—60-я гады XIX ст. (да гэтага часу мясцовыя прадстаўнікі выступалі пераважна як карэспандэнты, за выключэннем І. І. Грыгаровіча, П. М. Шпілеўскага, І. І. Насовіча і інш.). Трэба адзначыць, што асноўныя этнаграфічныя працы гэтага часу былі напісаны на аснове матэрыялаў, сабраных беларускімі аматарамі этнаграфіі. Многія ж польскія дзеячы на Беларусі па сутнасці працавалі на ніве беларускай культуры. Гэта— прадстаўнікі апалячаных беларусаў, пераважна дробнай шляхты, або карэнныя палякі, якія з дзіцячых год былі знаёмы з бытам і культурай беларускага народа і прыхільна ставіліся да яго. Такія аматары беларускай этнаграфіі, як Уладзіслаў Сыракомля, Ян Чачот, Рамуальд Зянькевіч і інш., у аднолькавай ступені могуць лічыцца як польскімі, так і беларускімі дзеячамі.

У другой палавіне XIX ст. культурнае развіццё Беларусі ўзнімаецца на новы ўзровень. Беларускі народ стварыў багатую самабытную культуру, блізкую да культуры братніх рускага і ўкраінскага народаў. Багацейшым скарбам духоўнай культуры беларусаў з'яўляецца яго вуснапаэтычная творчасць, у якой адлюстравалася мнагагранная жыццё народа, яго барацьба супраць нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту, думы і надзеі простага чалавека. Багатая вуснапаэтычная творчасць беларусаў у далейшым стала адной з асноў развіцця мастацкай літаратуры.

На працягу многавяковай гісторыі беларускі народ стварыў сваю багатую народную музыку, выяўленчае і прыкладное мастацтва, народнае тэатральнае мастацтва. Цяжкі сацыяльны і нацыянальны прыгнёт не змог

заглушыць імкненне народа да прыгожага, яго высокія эстэтычныя запатрабаванні. Народнае мастацтва заладжыла фундамент для фарміравання беларускага прафесіянальнага мастацтва.

У XIX ст. з асяроддзя беларускага народа выйшлі аўтары багатай ананімнай літаратуры, таленавітыя асветнікі (Паўлюк Багрым і інш.), паэты-дэмакраты (Францішак Багушэвіч, Янка Лучына, Адам Гурыновіч і інш.), дваранска-ліберальны пісьменнік і драматург В. Дунін-Марцінкевіч, рэвалюцыйны дэмакрат Кастусь Каліноўскі, мастакі-жывапісцы І. К. Дабравольскі, М. А. Астраганаў, Д. М. Полазаў, С. К. Заранка, І. Т. Хруцкі, гісторыкі, этнографы і фалькларысты І. І. Грыгаровіч, І. І. Насовіч, П. М. Шпілеўскі, П. В. Шэйн, Е. Р. Раманаў, М. Я. Нікіфароўскі, А. Я. Багдановіч, М. В. Доўнар-Запольскі і многія іншыя.

Беларуская нацыянальная культура па свайму характару не была аднароднай. У нацыянальным культурным руху Беларусі эпохі капіталізму дакладна вызначаліся дзве плыні — дваранска-буржуазная і рэвалюцыйна-дэмакратычная.

Да буржуазна-дваранскай плыні ў 50—60-я гады прымыкалі і прагрэсіўныя дзеячы. Віднейшым прадстаўніком іх быў В. Дунін-Марцінкевіч, вакол якога групаваліся аматары вывучэння беларускай мовы, быту, фальклору і мастацтва. У далейшым буржуазна-дваранская плынь набыла рэакцыйны характар. Прадстаўнікі яе А. Пшчолка і А. Ельскі ў 90-х гадах прапагандавалі аджыўшыя рэакцыйныя і містычныя рысы ў быце народа і апраўдвалі панска-буржуазны прыгнёт народа.

Рэвалюцыйна-дэмакратычная плынь у грамадска-палітычным і культурным жыцці Беларусі 60—90-х гадоў узначальвалася К. Каліноўскім, Ф. Багушэвічам, Я. Лучынай, А. Гурыновічам і інш.

Барацьбу двух напрамкаў грамадска-палітычнага руху 60-х гадоў Ленін ахарактарызаваў як барацьбу прадстаўнікоў дзвюх гістарычных тэндэнцый, дзвюх гістарычных сіл за новую Расію.

Капіталістычныя пераўтварэнні, бурныя рэвалюцыйныя падзеі, якія падрывалі ўстоі існаваўшага ў краіне ладу, нарэшце, уздым культурнага жыцця — усё гэта павялічвала цікавасць розных колаў грамадскасці да простага народа, які ўсё больш рашуча праяўляў сваю

сілу і волю і выступаў як тварэц гісторыі, пераўтваральнік грамадства. Аб народзе ў розных колах грамадства гаварылі па-рознаму. Прадстаўнікі перадавой грамадска-палітычнай думкі і грамадскага руху краіны адносіліся да яго з глыбокай павагай, станавіліся на бок простага народа і нярэдка ў імя яго ахвяравалі сваім жыццём. Іншыя глядзелі на народ са страхам і нянавісцю, бачылі ў ім толькі грубую разбураючую сілу. Аднак і яны імкнуліся «зразумець» народ, выдавалі сябе за абаронцаў яго інтарэсаў, прыкрываліся маскай клопату аб народзе і нават імя народа выстаўлялі ў пацвярджэнне сваіх грамадска-палітычных ідэй. Гэта былі прадстаўнікі рэакцыйнай плыні, ідэолагі самадзяржаўя і памешчыкаў-прыгоннікаў. Да ліку такіх «абаронцаў» інтарэсаў народа належалі, напрыклад, прадстаўнікі афіцыйнай народнасці і рэакцыйнае крыло славянафілаў, а пазней ідэолагі буржуазіі — прадстаўнікі рознага роду рэакцыйных школ у навуцы. Адсюль зразумела, чаму этнаграфія выкарыстоўвалася рознымі грамадска-палітычнымі коламі як адзін са сродкаў палітычнай і класавай барацьбы.

Зварот розных прадстаўнікоў грамадства да этнаграфіі аб'ектыўна садзейнічаў вывучэнню быту і культуры народа, накапленню фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў і такім чынам дапамагаў развіццю этнаграфіі як навукі.

# АСНОЎНЫЯ ТЭНДЭНЦЫІ РАЗВІЦЦЯ ЭТНАГРАФІІ Ў ПЕРШАЙ ПАЛАВІНЕ XIX ст.

## АД АГУЛЬНЫХ ВЫТОКАЎ

Барацьба грамадска-палітычных і навуковых плыняў у перыяд абвастрэння крызісу феадальна-прыгонніцкай сістэмы ў Расіі (30—50-я гады) канцэнтравалася галоўным чынам вакол сялянскага пытання. «Нельга забываць, што ў той час, калі пісалі асветнікі XVIII века..., калі пісалі нашы асветнікі ад 40-х да 60-х гадоў, — *усе* грамадскія пытанні зводзіліся да барацьбы з прыгонным правам і яго рэшткамі» [1], — пісаў У. І. Ленін. Гэта барацьба станавілася тым вастрэй, чым актыўней разгортваўся вызваленчы рух сярод саміх сялян, інтарэсы і настроі якіх адлюстравала перадавая руская думка. У. І. Ленін, у прыватнасці, адзначаў, што настрой правадыра рэвалюцыйных дэмакратаў В. Р. Бялінскага залежаў «ад настрою прыгонных сялян» [2].

Ва ўнутрыпалітычных адносінах гэта быў перыяд разгулу дэспатызму і рэакцыі пасля падаўлення дзекабрысцкага руху. Але ў 30—40-я гады ў Расіі ў процівагу рэакцыі развіваўся рэвалюцыйны рух. На арэну выступіў выдатны рэвалюцыянер-дэмакрат В. Р. Бялінскі. Ленін так ахарактарызаваў значэнне яго дзейнасці: «Папярэднікам поўнага выцяснення дваран разначынцамі ў нашым вызваленчым руху быў яшчэ пры прыгонным праве В. Р. Бялінскі» [3].

Прагрэсіўныя, дэмакратычныя тэндэнцыі ў вывучэнні быту, вуснапаэтычнай творчасці народаў Расіі ідуць

---

[1] У. І. Ленін. Творы, т. 2, стар. 475.
[2] У. І. Ленін. Творы, т. 16, стар. 110.
[3] У. І. Ленін. Творы, т. 20, стар. 225.

яшчэ ад дзекабрыстаў і Пушкіна. У 40—50-х гадах гэтыя тэндэнцыі былі ўзняты на новы ўзровень В. Р. Бялінскім і А. І. Герцанам.

У галіне этнаграфіі і фалькларыстыкі рэвалюцыйныя дэмакраты змагаліся галоўным чынам супраць рэакцыйных канцэпцый славянафільства і афіцыйнай народнасці. У процівагу іх рэакцыйным поглядам на народ Бялінскі пад народнасцю і «духам народным» разумеў ідэалогію шырокіх слаёў сялянства, імкненне яго да свабоды, пратэст супраць сацыяльнага прыгнёту, стыхійны народны атэізм.

Погляды на народ другога рэвалюцыянера-дэмакрата, А. І. Герцана, поўнасцю супадалі з поглядамі В. Р. Бялінскага. Аналізуючы разбойніцкія песні, Герцан, напрыклад, прыходзіць да наступнага вываду: «Гэта ўжо не жалобныя элегіі, гэта смелы крык, паўната весялосці чалавека, які адчувае сябе, нарэшце, свабодным; гэта— крык паграsevereжальны, гнеўны і задзёрлівы» [1].

Рэвалюцыйныя дэмакраты непасрэдна не займаліся этнаграфічнымі даследаваннямі. Аднак у мастацкіх і публіцыстычных творах яны паказвалі цяжкі лёс народа, каб выклікаць нянавісць да прыгнятальнікаў. «Успомніце быт рускага сялянства таго часу, — пісаў В. Р. Бялінскі, — яго дымную, неахайную хаціну, так падобную на хлеў, яго поле, то палітае крывавым потам свайго ўладальніка, то пустое, незасеянае ці патаптанае татарскімі атрадамі, а часам і псовым паляваннем пана...» [2] Звяртаючыся да этнографаў, Бялінскі падкрэсліваў, што народныя масы трэба паказваць такімі, якія «яны ёсць у сапраўднасці, а не апранутых у тэатральныя касцюмы, што выяўляюць пачуцці і паняцці, чужыя іх быту, становішчу і адукацыі» [3].

На этнаграфію і фальклор рэвалюцыянеры-дэмакраты глядзелі як на сродак зразумець народ, яго быт, каб ліквідаваць цёмныя бакі быту і ў першую чаргу вызваліць народ ад прыгнёту. А. І. Герцан пісаў: «Не ведаючы народа, можна прыцясняць народ, кабаліць яго, заваёўваць яго, але вызваліць нельга» [4].

---

[1] А. И. Герцен. Собр. соч., т. VI. М., 1955, стар. 340.

[2] В. Г. Белинский. Полн. собр. соч., т. V. М., 1954, стар. 441.

[3] Там жа, т. X. М., 1956, стар. 296.

[4] А. И. Герцен. Собр. соч., т. XVI, 1959, стар. 77.

Зусім іншыя мэты перад этнаграфіяй ставілі ідэолагі афіцыйнай народнасці і рэакцыйнага крыла славянафілаў. Асноўную ўвагу яны звярталі на кансерватыўныя бакі быту, адшуквалі ў ім элементы рэлігійнасці, пакорлівасці і адданасці самадзяржаўю. Прадстаўнікі рэакцыйнай плыні ў этнаграфіі ўсяляк ігнаравалі прагрэсіўныя, новыя рысы ў быце і культуры народа, замоўчвалі яго свабодалюбівыя, рэвалюцыйныя імкненні, сацыяльны пратэст. У вуснапаэтычнай творчасці на першы план яны высоўвалі духоўныя вершы і поўнасцю ігнаравалі тыя творы, ў якіх гучалі сацыяльны пратэст і стыхійны народны атэізм.

На баку такой «навукі» аб народзе быў велізарны самадзяржаўны бюракратычны апарат і цэнзура, цемрашальскія і рэакцыйныя сілы. Вельмі добра аб гэтым сказаў у свой час А. М. Пыпін: «...Права навукі ніколі не было прызнана ў нас ні ўстановамі, ні грамадскімі нормамі; навука дапускалася толькі ў вузкіх, утылітарных мэтах і ніколі не ведала свабоды даследавання, і калі...аказвалася ўсё ж такі нешта новае, крытычная думка, ідэальны парыў, незнаёмыя ў абставінах звычайнай субардынацыі, хоць і прапушчаныя больш разважлівым цэнзарам, то чытачы напаўадукаваныя — бясконцае племя фамусавых і скалазубаў — лямантавалі аб шкодзе навукі, аб небяспецы для грамадства» [1].

Зразумела, што пры такіх умовах друкавання этнаграфічная літаратура насіла на сабе пэўны адбітак рэакцыйных поглядаў таго часу. Фальклорна-этнаграфічныя зборнікі нават такіх вядомых збіральнікаў, як І. Снегіроў (1793—1868), І. Сахараў (1807—1863), А. Цярэшчанка (1806—1865), не былі пазбаўлены ўплыву афіцыйнай народнасці [2].

На развіццё рускай этнаграфічнай навукі значны ўплыў зрабіла барацьба грамадскіх плыняў, якія мяня-

---

[1] А. Н. Пыпин. История русской этнографии, т. I. СПб., 1890, стар. 358.

[2] Гл. іх працы: И. М. Снегирев. Русские в своих пословицах, ч. I—IV. М., 1831—1834; Русские простонародные праздники и суеверные обряды, ч. I—IV. М., 1837—1839; О лубочных картинках русского народа. М., 1844 і інш. И. П. Сахаров. Сказания русского народа о семейной жизни своих предков, тт. I—II, СПб., 1836—1838; Песни русского народа, тт. I—IV, 1838—1839; Русские народные сказки, 1841. А. В. Терещенко. Быт русского народа, тт. I—VII, 1848.

ліся ў залежнасці ад канкрэтна-гістарычных умоў. Так, заўзятыя спрэчкі заходнікаў і славянафілаў у другой палавіне 30—40-х гадоў аб тым, якім шляхам павінна развівацца Расія, значна павялічылі цікавасць перадавой грамадскасці таго часу да вывучэння народа. На пытанне аб тым, ці павінна Расія вучыцца ў «Захада» і ці ісці ёй сваім, уласным шляхам, заходнікі і славянафілы імкнуліся знайсці адказ у гісторыі і жыцці народа. Аднак як першыя, так і другія дапускалі памылкі ў вызначэнні далейшага лёсу Расіі.

Славянафілы, блізкія па сваіх поглядах да прадстаўнікоў афіцыйнай народнасці, ідэалізавалі дапятроўскую Русь і ўсхвалялі патрыярхальны быт, асаблівую ўвагу звярталі на яго кансерватыўныя бакі — містыцызм, рабалепства, пакорлівасць, адсталыя нормы ўнутрысямейных адносін і г. д. Такім чынам, сваёй дзейнасцю яны дапамагалі царскаму самадзяржаўю адстайваць феадальна-прыгонніцкія ўстоі.

Сярод прадстаўнікоў славянафільства ў этнаграфіі і фалькларыстыцы дарэформеннай Расіі цэнтральнае месца належыць П. В. Кірэеўскаму (1808—1856). Разам з паэтам М. М. Языкавым ён узначаліў славянафільскую плынь у вывучэнні вуснапаэтычнай творчасці і быту народа. Кірэеўскі пры дапамозе шырокай сеткі карэспандэнтаў сабраў вялікую колькасць абрадавых, неабрадавых, гістарычных песень і духоўных вершаў. Найбольш каштоўнымі ён лічыў духоўныя вершы, памылкова выдаючы іх за народныя песні [1].

У процівагу славянафілам заходнікі даказвалі, што нібыта руская народная творчасць не мае ніякага значэння і не з'яўляецца арыгінальнай, што яна вельмі бедная і пазбаўлена нацыянальнай самастойнасці [2].

Памылковыя погляды славянафілаў і заходнікаў вельмі рэзка крытыкавалі рэвалюцыйныя дэмакраты. «Крайнасці,— пісаў В. Р. Бялінскі,— выклікаюць такія ж супрацьлеглыя ім крайнасці. Адны кінуліся ў фантастычную народнасць, другія — у фантастычны касмапалітызм у імя чалавецтва. На думку апошніх, нацыянальнасць паходзіць ад чыста знешніх уплываў, выражае

[1] У 1848 г. П. В. Кірэеўскі выдаў зборнік духоўных вершаў пад назвай «Русские народные песни».

[2] Гл.: А. П. Милюков. Очерк истории русской поэзии. СПб., 1847.

